# Незвычайная мова

Многія людзі ўмеюць свістаць, а некаторыя свісцяць нават віртуозна. Але наўрад ці прыходзіла каму-небудзь у галаву выкарыстоўваць свіст, як сродак для размовы. Мы можам свістам паклікаць чалавека, падаць які-небудзь сігнал, але гаварыць у поўным сэнсе гэтага слова з дапамогай свісту ніхто з нас, зразумела, не ўмее.

Аднак жыхары вострава Гамера, з групы Канарскіх астравоў, валодаюць гэтай дзіўнай здольнасцю.

Цікава тое, што мова гэтая не з'яўляецца якой-небудзь сістэмай умоўных сігналаў. Жыхар вострава Гамера гаворыць на адным з дыялектаў іспанскай мовы. Але калі яму трэба перадаць што-небудзь спешнае чалавеку, які знаходзіцца ад яго на адлегласці ў некалькі кіламетраў, то ён карыстаецца той-жа іспанскай мовай, але толькі перакладзенай на свіст.

Як у даўнія часы, так і цяпер шлях з адной вёскі ў другую ператвараецца часта ў цяжкае і небяспечнае падарожжа. На востраве ёсць толькі адна горная дарога, якая злучае чатыры невялікія гарадкі. Але што там гаварыць аб шляхах зносін, калі ў эпоху радыё, тэлебачання і электрычнасці людзі на востраве жывуць прыкладна так, як і некалькі стагоддзяў таму назад: ніякіх тэхнічных сродкаў зносін паміж населенымі пунктамі няма.

Таму спрадвеку, калі чалавецтва яшчэ не мела паняцця аб такіх рэчах, як тэлеграф і тэлефон, на востраве Гамера была вынайдзена свая сувязь — мова свісту.

У 1402 — 1405 гадах іспанскія войскі захапілі Канарскія астравы. Яны былі вельмі здзіўлены, калі пачулі, як карэнныя жыхары размаўлялі паміж сабой на мове свісту.

Пазней іспанскія каланісты змяшаліся з мясцовымі жыхарамі і пераймалі ў іх метад «вымаўлення» слоў пры дапамозе свісту, але дапасавалі яго да сваёй, чыста іспанскай мовы. Гэта незвычайная мова атрымала іспанскую назву сільбо, а чалавек, які гаворыць гэтай «мовай», стаў называцца сільбадорам.



У чым-жа сакрэт сільбо? Той, хто «гаворыць», прыціскае кончык языка да зубоў і пачынае свістаць, адначасова вымаўляючы словы прыблізна так, як гэта робіцца ў час звычайнай размовы. Пры гэтым некаторыя сільбадоры (тут ужо справа густу!) кладуць у рот адзін ці два пальцы.

Вопытны сільбадор можа прасвістаць усё, што ён хоча сказаць па-іспанску.

Як сведчаць многія падарожнікі, сільбадоры (як мужчыны, так і жанчыны) свісцяць вельмі моцна. Яны сцвярджаюць, што гэты свіст мала адрозніваецца ад... паравознага гудка!

Вось чаму сільбадор можа лёгка гаварыць са сваім субяседнікам, які знаходзіцца ад яго ў 5—6 кілометрах. Некаторым удаецца гаварыць нават на адлегласці 11 кілометраў. Але каб паверыць гэтаму, неабходна прыняць пад увагу таксама акустычныя ўмовы горнай мясцовасці. Тады нічога фантастычнага ў гэтай з'яве мы не ўбачым.

Вельмі рэдка, і перш за ўсё для таго, каб здзівіць іншаземца, жыхары вострава ўжываюць сільбо пры непасрэдных зносінах. Але пастухі, якія знаходзяцца са сваімі статкамі далёка адзін ад другога, заўсёды праводзяць час у «размове».

Сільбо, з'яўляючыся мовай свісту, пабудавана на базе існуючай іспанскай мовы, і ў гэтым непаўторнасць гэтага сапраўды «гамераўскага свісту».



*Краявід вострава Гамера.*

## Пражэрлівыя мурашкі

Тэрміты, апрача змей, прычыняюць найбольш шкодаў аўстралійскаму стэпу і яго жыхарам.

Гэтыя мурашкі, маюць практычны звычай будаваць свае хаты — груды (6—7 м вышынёю) наўкол прадмета, які мае ім служыць за яду, як, напрыклад, наўкол старога пня. Ядуць усё, што ім трапляецца па дарозе.

Неадзін падарожнік, які заначаваў у джунгліі на ранку не мог знайсці сваіх ботаў. Там, дзе яны былі, стаяла меншая або большая груда гліны, якую за ноч насыпалі тэрміты вакол сваёй будучай яды (ботаў).

Цяжка што-небудзь ратаваць ад іх пражэрлівасці. Калі ўварвуцца ў дом, дашчэнту зжыраюць мэблю так, што застаецца толькі фарба. Таму нічога здзіўляючага што людзі, каб пазбыцца іх, свае хаты будуюць на высокіх палях, абітых жалезнаю бляхаю.

# Невялікая памылка

Вёска, дзе я нарадзіўся, ляжала побач шашы Гайнаўка — Кляшчэлі. Непадалёку працякала рэчка, у якой я часта любіў купацца. Вёска была вялікая — у ёй было больш ста хат. Пасярэдзіне стаяла прасторная, драўляная школа. Вучыўся я ў гэтай школе ад першага класа.

Выпадак, аб якім хачу расказаць, здарыўся, калі я быў у шостым класе. Наогул я лічыўся сярэднім вучнем — двоек не меў, але і пяцёркі здараліся рэдка. Я быў даволі здольны, але калі мяне выклікаў настаўнік, заўсёды аказвалася, што чаго-небудзь я абавязкова не давучыў.

У мяне быў таварыш, Кузьма, амаль па ўсіх прадметах ён меў пяцёркі. Ён так да гэтага прывык, што вельмі хваляваўся, калі атрымліваў тройку, а нават і чацвёрку. Памятаю, як ён і на лёд не прыдзе пакатацца, і ў шахматы праіграе. Будзе хадзіць і ўвесь час мармытаць сабе:

— І як гэта я не ведаў такой дробязі.

У такія моманты я ніяк не мог зразумець, чаму ён ходзіць такі сумны — чацвёрка-ж таксама добрая адзнака. Усё праяснілася для мяне зусім нечакана.

Аднойчы Кузьму выклікалі па алгебры. Настаўнікам па алгебры быў П. Гацкевіч. Кузьма рашыў задачу і адказаў на «выдатна».

Вось тут і здарылася ўся гэтая гісторыя. Настаўнік хацеў ужо паставіць яму пяцёрку, але выпадкова збіўся і паставіў яе мне (нашы прозвішчы ў журнале стаялі побач). Я заўважыў памылку настаўніка адразу-ж пасля ўрока, калі заносіў журнал у настаўніцкую, і быў амаль упэўнены, што на наступным уроку алгебры настаўнік П. Гацкевіч перад усім класам скажа:

— Панасюк, на апошнім уроку я памыліўся і паставіў вам «выдатна». Як нам цяпер зрабіць — ці закрэсліць гэтую адзнаку, ці можа вы будзеце адказваць?

Вечарам прыйшоў да мяне Кузьма. Ён быў вясёлы, на гэты раз ён абыграў мяне ў шахматы. І тут я яму адкрыта расказаў аб сённешнім здарэнні. Кузьма выслухаў мяне, падумаў і сказаў, што найлепш будзе, калі я сам добра папрацую і на «выдатна» адкажу.

Раней я вучыў урокі спакойна. Прачытаю пару раз падручнік і думаю: галоўнае ведаю, а калі не адкажу на адно ці два пытанні — невялікая бяда. Не чацвёрка, дык тройка абавязкова будзе! А цяпер мне першы раз трэба было добра адказаць на ўсе пытанні. Моцна папрацаваў я тады, адна мая сяброўка гаварыла, што «нават пахудзеў крыху».

Здарылася якраз, як я і чакаў. Настаўнік выклікаў мяне і запытаў, ці змагу я апраўдаць гэтую пяцёрку. Я быў хлопцам адважным і кажу:

— Сцерці адзнаку ніколі не позна, спрабую я лепш адказваць!

— Ого, які храбры! — фыркнула Марыська, якая сядзела побач. А настаўнік сказаў:

— Калі ласка, адказвайце. І я пачаў адказваць. Крыху хваляваўся, але адказваў упэўнена, цвёрда. Са мною рабілася нешта незвычайнае. Чым больш настаўнік задаваў мне пытанняў, тым больш мне хацелася адказваць, хацелася заваяваць права на тую выпадковую пяцёрку.

На ўсе пытанні я адказаў добра. Забыўся толькі адно правіла, якое мы вывучалі зусім нядаўна. Але настаўнік сказаў, што пяцёрку, якая стаіць у журнале, я заслужыў і ён яе сціраць не будзе. Мой сябра Кузьма быў вельмі задаволены, толькі я быў нейкі ўсхваляваны. Я не мог сабе дараваць, што не адказаў на такое лёгкае пытанне. Вось і ўсё.

Мой сябра Кузьма вучыцца цяпер у Беларускім Ліцэі ў Гайнаўцы, я — у Бельску. Апісанае здарэнне з'яўляецца светлым успамінам нашага шчырага сяброўства.

ПАНАСЮК ПАВЕЛ
Бельск

# Сельскагаспадарчыя парады

## Аблёты пчол

*Надыходзіць вясна, разам з ёю набліжаюцца вясновыя работы пчаляра.*

*Першая работа — гэта выстаўка вуллёў са схоўку на тачок, калі яны на зіму былі схаваны. Калі надвор'е будзе 10—12°C цяпла, пчол можна вынесці на тачок. Тачок — гэта тое месца, дзе вуллі з пчоламі стаяць летам. На тачку, зараз па выстаўленні пчолы пачынаюць аблётвацца.*

*У часе аблёту пчаляр павінен паглядзець, як пчолы лётаюць. Пры тым пчаляр не павінен набліжацца да вуллёў, таму што пчолы могуць запэцкаць адзенне. Калі акажацца, што з некаторых вуллёў пчолы не вылятаюць, або вылятаюць слаба, значыцца ў іх мала, або зусім няма корму, таму трэба яго неадкладна паддаць. Калі пчолы з голаду, або па нейкай іншай прычыне асыпаліся, тады неабходна выбраць свежа асыпаныя пчолы ў рашато, прынесці ў хату (вулей таксама), паставіць у цёплым месцы і апырскаць сіропам. Калі яны ачуняюць — тады іх трэба перасыпаць з гняздом у вулеі і даць корму. Пасля двух, трох дзён, вулей можна вынесці на тачок. Як толькі пчолы аблётаюцца, тады матка зараз-жа сее яечкі і ў вулею пачынаецца праца. Таму з выстаўкай вуллёў на тачок не варта спазняцца.*

*Пасля аблёту пры тэмпературы 15—20°C цяпла, неабходна прагледзець, ці ў кожным вулею ёсць па 5 кг мёду, а калі яго ёсць менш, трэба зараз-жа дадаць, таму што пчол нельга марыць голадам. За зіму частка пчол памірае, у выніку чаго цяпло ў вулею не даходзіць да 35°C. У такім выпадку патрэбна звузіць гняздо вулея так, каб у кожным канцы яго было не больш, як па адной рамцы сушы.*

*Калі, адкрыўшы гняздо на астатняй рамцы знойдзем яечкі і чарвячкі маткі, то трэба пашырыць гняздо, прыкладаючы яшчэ адну, дзве рамкі.*

*У месяцы сакавіку трэба заглядаць у гняздо праз кожныя 2 тыдні, а ў красавіку і ў маі штотыдзень. У маі і ў чэрвені ў канцы гнязда павінна быць на 2 рамы сушы. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на тое, каб пчолам не было цесна ў гняздзе, бо тады пчолы слаба працуюць і рояцца, пры чым колькасць мёду памяншаецца. Калі ў гняздзе ёсць 2 рамы сушы, то ў адну пчолы складаюць кветкавы пылок. Пашыраючы гняздо гэтую раму трэба адсунуць на бераг, а суш не занятую да засеянага плястра. Каб моль не псавала плястраў, у часе пашырэння гнязда спачатку закладаем рамы са старэйшымі плястрамі, у маі з навейшымі, а ў чэрвені з венжай — інакш са штучнай вашчынай.*

*Калі ў часе агляду акажацца, што ў нейкім вулею рой займае толькі 2 рамкі, то неабходна далучыць да яго іншы рой, слабы, або такі, у якім матка зімою памерла. Калі далучаем слабейшы рой з маткай, тады забіраем адну: старэйшую, або слабейшую матку. Матку лепшую, якую пакідаем у вулею, трэба пасадзіць на 2 тыдні ў матачнік, каб далучаныя пчолы не забілі яе.*

*Пад час першага агляду гнёздаў, зараз пасля зімы, трэба выкінуць з вулея заплясьнелыя рамы і тыя, у якіх каморачкі неаднолькава глыбокія, — на іх матка не сее.*

*Зразумела, у часе першага агляду неабходна ачысціць вулей са смецця, няжывых пчол, — усё гэта трэба спаліць, таму, што ў гэтым смецці могуць быць яечкі молі, або бактэрыі пчалінай хваробы.*

*Каб пасля агляду не абнізілася тэмпература ў вулею, патрэбна ахутаць яго так, як перад зімою і адкінуць усё гэта толькі ў пачатку чэрвеня.*

І. ЕВЕЦ
Бельск

# Куток гаспадыні

## Прыгатаванне бульбянога крухмалу

Бульбяны крухмал можна зрабіць у хатніх умовах. Для гэтага бульбу трэба добра памыць, мяняючы ваду не менш 3—4 разоў, і расцерці на звычайнай металічнай цёрцы. Атрыманую кашу хутка (інакш крухмал будзе мець брудновата - шэры колер) перанесці на сіта, папярэдне паклаўшы на яго ў два слаі марлю. Разам з сокавай вадой крухмал уходзіць праз сіта ў падстаўленую пасудзіну. Мязгу, якая засталася на марлі, добра адціскаюць і ў далейшым калі трэба, некалькі разоў прамываюць.

З асеўшага крухмалу зліваюць сокавую ваду і заліваюць чыстай. Калі крухмал зноў асядзе на дно, трэба зліць ваду і з паверхні крухмалу асцярожна зняць верхні, забруджаны слой. Прамыўку паўтараюць 3—4 разы.

Каб высушыць крухмал трэба яго раскласці тонкім слоем на паперы або тканіне і сушыць, перамешваючы праз кожныя 3—4 гадзіны. Заканчваюць сушку, калі на вобмацак не адчуваецца вільготнасці.

Адыходы, якія застаюцца пры атрыманні крухмалу (мязга), з'яўляюцца добрым кормам для жывёлы.

## Усякая ўсячына

### ПОМСТА

Сыны фабрыканта ѓбутку Алёстра ў ЗША не любілі свайго бацькі і чакалі ягонай смерці, каб захапіць маёмасць.

Якое было расчараванне, калі пасля смерці бацькі было выяўлена завяшчанне. Бацька запісаў 87.000 штук чаравік на правую нагу для сына Роберта, а столькі-ж левых для сына Эдуарда забараняючы паміж імі абмену.

### АУТАМАБІЛЬНЫ ЗАКОН

Калі ў Англіі з'явіліся на вуліцы першыя аўтамабілі, быў выданы закон наступнага зместу:

«Механічныя павозкі (аўтамабілі) мусяць быць кіраваны прынамсі праз тры асобы. Яны могуць ездзіць па горадзе з хуткасцю ні большай, чымсь тры кілометры на гадзіну, а за горадам — 6 км на гадзіну. У населеных мясцовасцях перад павозкай павінен бегчы чалавек з чырвоным сцяжком».

### ЦЯМЛІВЫ ВЯЗЕНЬ

У горадзе Сан- Францыско ўцёк з турмы вязень Норман Дайль. Але турма знаходзіцца ў сярэдзіне горада.

Як прайсці праз горад у паласатым арыштанцкім адзенні?

Але на ўсё можна знайсці раду. Вязень прычапіў на грудзі картку паперы з надпісам: «З падзякай прымаюцца невялікія даткі на былых вязняў», і трымаючы перад сабой шапку, спакойна шпацыраваў на вачах у паліцыі па вуліцах горада.

### МОЖНА МУР ПРАБІЦЬ ГАЛАВОЮ

«Галавою муру не праб'еш» — вучыць народная прымаўка. Аднак за грошы дык знойдуцца такія, якія гатовы даказаць, што гэта няпраўда.

Джон Добэр з Чыкаго (ў Амерыцы), пайшоў у залог, што ён праб'е галавою цагляны мур. Чатыры з паловай гадзіны ён тоўк галавою ў мур, а ўсё-ж-такі мур паддаўся і Дабэр выйграў залог.

### ДОБРАЯ ПРАМОВА

— У добрай прамове — сказаў Ідэн — былы англійскі прэм'ер-міністр — мусіць быць добры пачатак і добрае заканчэнне. Але найважнейшае, каб пачатак быў блізка канца.

### НАЙДАУЖЭЙШЫЯ ВУСЫ

Найдаўжэйшыя вусы загадаваў некалі Рой Джон з Глазго. Яны маюць разам 42 сантыметры.




# Гасціна ў чорта

*Тупая дрымота ахутвала мае мазгі. Неяк не згледзеў, калі і як заглядзеўся я на столь, як-бы меўся знайсці на ім тэму да фельетона. На жаль на столі не толькі тэму, а нават мухі не было.*

*— Каб іх чорт узяў такія справы — вылаяўся я з нуды, і толькі выrваліся мне гэтыя словы, як навакол запахла серай. Я павярнуў галаву, бачу стаіць ён, рыжы, побач: з іранічнай усмешкай, злавесным бліскам у вачах, апрануты ў чорны касцюм з моднай мушкай. З выгляду змахваў на эстраднага артыста, аднака-ж кручкаватыя пальцы і рожкі, што тырчэлі з-пад кучаравых валос,* выяўлялі яго прафесію.

*— Вы ўспаміналі мяне? — вымавіў «госць» ахрыпшым голасам.*

*— Выбачайце, мімаволі вырвалася мне гэтае слова — дрыжачым голасам апраўдаўся я.*

*— Хе, хе, хе! — дзе я не з'яўлюся — там зараз кожнаму дух займае... Табе дзядзька ўжо ў пекла пара — заўважыў «госць». Хацеў я засупярэчыць, але не паспеў. Хтосьці пацягнуў мяне за нагу, у вушах зашумеў вецер, бліснула маланка, ударыў гром і я апынуўся ў пекле.*

*Мой праваднік расчыніў вароты: перада мною знаходзілася вялікая плошча, застаўленая агромністымі катламі з гатуючыйся смалою. Каля кожнага катла стаяў чорт з трызубцам. Калі ў якім катле выныpала галава паверх смалы, дзяжурны чорт папіхаў яе трызубцам на дно.*

*— А дзе — пытаю — нашы мучацца? Ён адыйшоў некалькі крокаў і паказаў мне кацёл з надпісам «Тутэйшыя». Я здзівіўся — чорта з трызубцам тут не было.*

*— Чаму тут за парадкам не сочаць? — спытаў я прыдзірліва, здаволены, што змагу напісаць фельетон аб бязладдзі ў пекле.*

*— Э, браток! У гэтым катле людзі асаблівыя, яны самі за парадкам сочаць, як толькі адзін галаву высуне, іншыя схопяць яго, ды ізноў на дно пацягнуць. За апошнімі словамі чорт схапіў мяне і з размаху кінуў у кацёл. У гэты момант я трэснуўся ілбом у стол і... прачнуўся.*

*Лоб аж трашчаў ад болю. У думках перасоўвалася ўсё тое, што бачыў у васне і я падумаў: многа ў нас людзей зайздросных, якія так і імкнуцца ўцягнуць бліжняга ў мутнасць. Некаторыя займаюцца толькі плёткамі і недаразуменні сярод суседзяў сеюць.*

*У згуртаванасці сіла, дарагія чытачы, і таму трэба к чорту пасылаць усіх, хто хоча разбіваць адзінства.*

*Дзядзька Лявон*

### Даказала

Сядзіць мужык, стругае бульбу і кажа да жонкі: — Скажы ты мне, навошта Бог стварыў бульбу?

Жонка адказвае: — Дурны ты, не ведаеш на тое, каб і бедны чалавек меў з каго скуру дзерці.

(а)

### Незразумела

Дырэктар прадпрыемства вярнуўся ўсхваляваны з канферэнцыі і даў загад двум рабочым, каб выкінулі тапчан з яго кабінета. Стройная сакратарачка ўбачыўшы гэта ўбегла збянтэжаная ў кабінет і пытае:

— А што, таварыш дырэктар, я ўжо не буду працаваць? (а)




*Без слоў.*

# «Малайцы» з Канюкаў

Самі бачымо, у Канюках
Хлопцы там героі,
На забаву кожным святам
Спяшаць грамадою.

Запрагаюць коні,
Лёскаюць важжамі,
То яшчэ праверацъ
Ці усе з нажамі.

Заедуць да вёскі
Абы да якое,
Дзівуюцца людзі,
Што з імі такое.

Накупляюць водкі,
У павал нап'юцца,
Нападуць чужога,
Зараз-жа й паб'юцца.

Колькі яны ў Плёсках
Шкоды нарабілі,
Многа у шпіталю,
Аднаго забілі.

А карысць якую
З таго яны маюць?
Вось карысць якая —
З турмы не вылазяць.

Ну, а што за радасць
Што яны ваююць?
Самі гэта бачым —
Маладосць марнуюць.

Не бярыце, хлопцы,
З Канюкаў прыкладу
Не будзе на свеце
Тады у нас ладу.

## Узбагацеў

Было двух сяброў. Аднойчы адзін з іх паклікаў другога ў госці.

Прыйшоўшы, той убачыў цэлы стол застаўлены рознымі цудоўнымі блюдамі. На жаль усе гэтыя блюды былі пустыя, толькі на адным ляжаў вельмі маленькі кусочак мёду. Паглядзеўшы на гэта госць сказаў:

— Ого, што я бачу, мой сябра ўжо вельмі ўзбагацеў, нават адну пчалу купіў. (аб).

# Падалянска-стачкоўская «баталія» ў Белавежы

...Яны рушылі ў атаку
Без гармат і без гранатаў,
Толькі крэсламі махалі
А ілбы усё-ж трашчалі...

Вялізны плакат, моцна прыклееены да сцяны кніжнага магазіна, апавяшчаў усім жыхарам Белавежы, што сёння 8 лютага 1958 года, у зале кіно «Зубр» адбудзецца цудоўнейшая з цудоўных забава. Унізе на плакаце было дапісана: «Буфет багата забяспечаны».

Натоўп гаманлівай моладзі, што сабраўся ля плаката, усхвалявана гудзеў:

— Трэба абавязкова пайсці. Такая забава не заўсёды тут бывае.

Роўна ў 20 гадзін з залы кіно пачуліся прарэзлівыя зыкі «румбы».

Прайшло некалькі хвілін — і танцавальная зала бітком запоўнілася маладымі, прыгожымі, стройнымі, як бярозкі, белавежскімі дзяўчатамі. Хлопцаў у Белавежы вельмі мала ў параўнанні з дзяўчатамі, таму апошніх на забаве заўсёды многа больш. Выбірай сабе, якую душа захоча, ёсць з чаго выбіраць! Зірне на цябе такая лясная русалачка, кіне на цябе свой глыбокі позірк з-пад доўгіх вейк, і закалоцішся, задрыжыш, чалавеча, як той асінавы ліст.

І танцаваць нашы дзяўчаты любяць, і хлопцаў на вагу золата цэняць (таму, што тут іх мала). Толькі белавежскія хлопцы не дацэньваюць гэтага. Ім там не да танцаў. Абы гарэлкі нахлёбацца ды пабуяніць.

Так і сёння. Прайграў аркестр усяго некалькі танцаў, а хлопцаў як-бы хто памялом вымеў — у танцавальнай зале са свечкай ніводнага не знойдзеш. Усе ўжо ў буфеце сядзяць, кілішкі перакульваюць, гарланяць. Толькі дым папяросны адтуль клубамі валіць. Сапраўды, нібы ў той славутай карчме «Рым», дзе пан Твардоўскі з хеўрай бавіўся. Гарэлкі ў буфеце не перапіць — яе тут сапраўднае мора, абытолькі грошы былі.

Нахлёбаўшыся ўдосталь, ледзь варочаючы языкамі, якія калом сталі ім у горле, хлопцы з памутнеўшымі вачыма рынуліся ў залу.

Вось цяпер дык і загуляць зусім дарэчы. Вось дык аказія па-свойму, па-кавалерску, «разлічыцца» падалянцам са стачкоўцамі. Ужо здаўна так павялося, што яны заўсёды «катоў дзяруць» і толькі зачэпку шукаюць, каб пабіцца. А каб спытаў каго, за што, — дык, напэўна, ніхто з іх не змог-бы растлумачыць. Мабыць, традыцыя ўжо такая...

Раптам пачуўся баявы вокліч нейкага задзірыстага падалянца:

— Хлопцы, біць стачкоўцаў!

— Ура!.. — грымнулі яму ў адказ паплечнікі.

Стачкоўцы таксама не з баязлівых, не ўцяклі адразу. І пайшлі тут у рух шклянкі, бутэлькі, талеркі; затрашчалі крэслы на ілбах белавежскіх хлопцаў. А ілбы ў іх моцныя, быццам у зуброў, не разаб'еш абы якім крэслам. Таму неўзабаве з крэслаў толькі трэскі пасыпаліся. Калі не стала крэслаў, пайшлі ў рух нажы. Вынік гэтай баталіі быў сумны: аднаго з падалянцаў парэзалі.

У той час, калі пачалася забава, на «пастарунку» МО ў Белавежы сядзелі два міліцыянеры і, сонна пазяхаючы, аб нечым гутарылі:

— А мо' на забаву пайсці паглядзець? — лаканічна заўважыў адзін.

— Ці ты з глузду з'ехаў? — запярэчыў другі. — Там-жа зараз панапіваюцца, біцца пачнуць... Калі табе патыліца свярбіць, дык ідзі, — іранічна закончыў ён.

Нібы ў адказ на гэта, з боку кіно «Зубр» пачуўся прарэзлівы крык, і шум бойкі.

— Ну, вось пачалося, — прамовіў дрыжачымі губамі міліцыянер. Хутчэй зачыняй дзверы, а то яшчэ сюды ўварвуцца, — падганяў ён таварыша.

Прайшоў нейкі час, а міліцыянеры ўсё яшчэ стаялі, спадзяючыся на нешта нечаканае. На двары было ўжо ціха.

— Заціхлі, мабыць, ужо канец, — прамовіў адзін з палёгкай.

— Ну, то й дзякуй Богу, добра, што хоць сюды не нахлынулі, — адказаў другі, беленькай хустачкай выціраючы пот з твару.

— Тады пойдзем паглядзім, — унёс прапанову першы.

— Цяпер можна, — згадзіўся другі.

Яны вышлі на двор.

ТАНКАЎ